*Фёдор ПРИВАЛОВ:*

# "НАСИЛЬНО ЛЮБИТЬ ЗЕМЛЮ НИКОГО НЕ ЗАСТАВИШЬ"

***Накануне президентских выборов в программах кандидатов, на страницах прессы вопросы нынешней и будущей аграрной политики занимают не последнее место. С умеренными позициями переустройства села соседствуют радикальные подходы, нацеленные на разрушение колхозов, по направленности действий во многом схожие с их созданием в известные годы.***

***Наш корреспондент беседует о проблемах деревни с председателем колхоза "Шипяны" Смолевичского района Ф.И.ПРИВАЛОВЫМ.***

**— Федор Иванович, как Вы оцениваете нынешнее состояние сельского хозяйства, его перспективы с позиций председателя колхоза?**

— Сразу оговорюсь, что я сторонник коллективного ведения сельского хозяйства. Многое необходимо менять, совершенствовать в вопросах собственности на землю и организации крестьянского труда.

Главная наша беда заключается в том, что сельское хозяйство воспринимается как нечто подсобное в общей схеме народного хозяйства. Отсюда остаточный принцип в его поддержке и внимании к нему. По существу, исходя из главной задачи деревни — обеспечивать население республики продуктами питания, многими сырьевыми ресурсами, сельскохозяйственное товарное производство должно быть мощным индустриальным цехом. В общем балансе народного хозяйства коллективному труду нет альтернативы. Кто из сторонников крушения колхозов найдет им замену в решении социальных задач на селе?

По своему хозяйству знаю, что никто в ближайшей перспективе не может их решить. В колхозе в настоящее время 740 пенсионеров и 280 работающих. Отопление, коммунальные услуги, детсады, школа, связь, дороги, транспорт и хозяйство, пенсии — это все проблемы колхоза. Пожилые люди в основном держат скот. Сено, концентраты, зерно, солома, подвоз, вывоз, обработка и помощь в уборке на приусадебных участках — все это также головная боль колхозов.

Худо-бедно, но эти задачи решаются. В колхозе своевременно выплачивается зарплата, старикам оказывается помощь. Никуда от этого не денешься, хотя периферийное внимание к колхозу постоянно ставит его в критическое положение.

**— В чем это выражается?**

— Буквально во всем. В ценовой политике на сельхозпродукцию, кредитовании, топливно-техническом обеспечении. Вот пример дисбаланса цен. В мае колхоз сдал 100 тонн зерна — получил 80 млн.рублей. Сдал и 170 тонн молока на 75 млн.рублей. При этом за молоко нам заплатило государство по 500 рублей за литр (бензин мы покупаем по 4.400 рублей за литр). Чтобы произвести это молоко, израсходовано 150 тонн комбикормов, масса сена, силоса, электроэнергии, топлива. Вот и судите о балансе цен на продукцию животноводства и растениеводства. Пугает, что это в деревне начинают понимать, и животноводство резко идет на убыль. Не случайно практически прекратилась сдача молока из личных подворий. В 1993 году в сутки сдавали 1.700 литров, в 1994 году уже около 800 литров. Колхоз также в убытке. Надо содержать лабораторию, ее работников, штат приемщиков, транспорт. На каждом собранном от населения литре молока колхоз теряет 310 рублей.

**— В чем же выход, Федор Иванович? Может, действительно только фермеры решат проблемы села?**

— Фермеру есть место на селе. Пугает только вульгаризация, похоже, с политическим оттенком, в насаждении идеи фермерства, необдуманность, ни экономически, ни психологически не просчитанная кампания за всеобщую фермеризацию.Фермеры — это наши сельчане, привыкшие к одной операции на земле или в животноводстве, а не выписанные с Запада сельскохозяйственные производители с их агрознаниями, техникой и экономическими расчетами. Землю берут для работы на ней, а не ради быстрого обогащения. При плохом, неграмотном обращении она скудеет, а ведь есть мудрая присказка: голод нации начинается с голода земли.

Выход есть, безусловно. Я уже неоднократно слушал выступления нынешнего кандидата в Президенты Республики Беларусь В.Ф.Кебича. Его программа предусматривает сохранение коллективных хозяйств с одновременным акционированием, долгосрочной арендой, упразднением промежуточных звеньев государственной монополии на хранение и переработку сельхозпродукции. Центр индустриальной тяжести хранения и переработки должен быть на селе. Я полностью солидарен в этом с Председателем Совета Министров.

Более того, хотел бы, чтобы осуществился поворот к социальной политике на селе. Надо задержать здесь молодежь — через улучшение условий жизни, строительство жилья. Абсурд, когда город, ощущая избыток рабочей силы, строит жилье по всему периметру, перетягивает молодежь, в том числе и из деревень нашего колхоза, а на селе это проблема номер один.

**— Вы некоторое время учились в Федеративной Республике Германии, общались с фермерами. Какое из своих впечатлений Вы бы преломили через нашу действительность?**

— Наверное, то, что наши лженационалисты и радикал-реформаторы не знают, что такое фермер. Труд западного товаропроизводителя, в частности, в ФРГ, построен на коллективной основе. Фермер имеет только свой счет, на который поступает его доля от коллективного хозяйствования. Совместно покупается техника, осуществляется переработка, реализация продукции со специализированным уклоном в кооперации. Они никогда не позволят, чтобы это было разрушено.

Если бы эти сельхозкооперативы назвали колхозами, я бы ничуть не удивился. Тем более что и там, если партнер плохо работает, его исключат из коллективного хозяйства, либо у него будет пустой счет.

У нас в переустройстве села важно, чтобы каждый имел свою долю собственности, свой интерес в труде, перспективу прироста продуктов труда как для себя, так и для своих детей. Есть и другие проблемы, которые не укладываются в стереотип представлений о селе и его жителях.

Почему принято считать, что житель деревни обязательно должен быть земледельцем или животноводом? Насильно любить землю никого не заставишь и плодов от насильно обрабатываемой земли не будет. Подгонка под этот стандарт лишила деревню ремесел, элементарных услуг, за которыми деревня тянется в город. Не обязательно всем пахать землю. Деревне нужны и учителя, и сапожники, и кузнецы, и ремонтники радиоаппаратуры. Пусть они становятся частниками. Но они нужны людям, колхозу и могут быть полноправными его членами. Вспомните время, когда на селе умели катать валенки, делать для лошадей подковы, упряжь. Сейчас этих профессий не стало. Вместе с ними не стало и овец, лошади почти исчезли.

Не надо гигантомании, новых кампаний по строительству огромных комбинатов, хранилищ. Пусть они будут небольшие, а люди получат возможность жить своим честным трудом. Не из города придется тянуть всякую мелочь, а наоборот, избытки будем давать городу. Это и есть рынок через собственность, труд, интерес к нему, а не надуманные очередные планы насилия над деревней. Это и есть возрождение деревни не через лозунги, а через животворное дело.

**— У Вас много претензий к сельскохозяйственной политике нынешнего правительства. Его возглавляет В.Ф.Кебич. Вы будете за него голосовать как за кандидата на пост Президента?**

— Претензий много — как к политике, так и к позиции по отношению правительства к сельскому хозяйству. Но я бы не стал возлагать вину за все происходящее на Кебича. Он решает проблемы села не на излом, через разрушение колхозов, не заводит в тупик жителей деревни.

Его немалая заслуга в том, что за последние годы мы не скатились до уровня национального бедствия в сельском хозяйстве. Сохранилась основа для его подъема. Сужу по своему колхозу. Многое изменилось в работе председателя. Крутиться приходится, чтобы обеспечить рабочий процесс, уже не столь часто заглядывая в рот государственным снабженческим структурам. Но мы отсеялись, надеюсь, уберем урожай. По итогам полугодия колхоз в области на 12-м месте по зарплате, решаются проблемы в социальной сфере. С трудом, но не стоим на месте в этих вопросах.

В.Ф.Кебича я ценю и за последовательность в деле экономического объединения с Россией. Надо иметь крепкое убеждение и волю, чтобы осуществить стремление белорусов всегда быть в союзе с русским народом.

**— Ваш коллега по сельскохозяйственному труду А.Г.Лукашенко мечтает стать Президентом. Может быть, он принесет деревне избавление от всех бед?**

— Я далек от иллюзий. Ценю труд председателя колхоза, директора совхоза, но наивно думать, что с его приходом на пост Президента село расцветет. Слишком многое в государстве надо увязать высшему должностному лицу, чтобы и деревня обрела, наконец, достойное место.

Думающему и любящему землю не надо вершин власти. Председатель колхоза, директор совхоза, руководитель акционерного сельскохозяйственного предприятия, уважающий свой деревенский труд, всегда будет нужным и авторитетным человеком на селе. Я не думаю, что знаменитый председатель Орловский рвался бы в президенты или премьеры, но тем не менее, он нам дороже президента Горбачева, который, извините, после вселенской демагогии и развала страны подрабатывает рекламой презервативов в западной фирме.

Не следует ожидать от Александра Григорьевича, судя по итогам его антикоррупционной кампании, больших свершений и по другим вопросам, в том числе и что касается расцвета деревни. В этом плане я реалист, а не политический иллюзионист.

Мне хотелось бы видеть не Президента-детектива, раскрывателя и преследователя, а Президента-созидателя и талантливого государственного деятеля. С этих позиций кандидатуру нынешнего Председателя Совета Министров В.Ф.Кебича на президентский пост считаю предпочтительной.

■ Вось так і жывём

# КАМУ НЕСЦІ ТУГУ СВАЮ

Сёння часта раздаюцца галасы: «прыкрыць» сельсаветы, бо яны адсталі ад жыцця. І ўсё ж пакуль замены ім не знойдзена, сцежкі сюды не зарастаюць.

Настасся Янучок жыве ў вёсцы Рубеж. Восьмы дзесятак разменяла. Здарылася трагедыя: сын Алесь, яе карміцель і падтрымка, загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Як жыць далей? Хто дапаможа? Сустрэлі мы Настассю ў кабінеце старшыні Нагорнаўскага сельсавета Уладзіміра Фалітара.

— Дровы канчаюцца. У печы няма чым паліць, — ціха сказала яна.

У старшыні ёсць два варыянты. Першы: выпісаць квіток — і няхай едзе Янучок у Клецк на склад палівазбыту. Але ж трэба жанчыне шукаць аўтамашыну, грузчыкаў, а гэта ўляціць ёй у добрую капеечку. Другі варыянт: арганізаваць саманарыхтоўку дроў у лесе ля вёскі Мервіны, дзе прайшоў буран і цяпер там трэба рабіць ачыстку. Настасся «ўхапілася» за гэты шлях. Тым больш што віноўнік смерці сына, калгасны шафёр, робіць у яе па гаспадарцы ўсё што жанчына ні скажа. На пасяджэнні народнага суда Янучок пашкадавала шафёра: «Яму жыць трэба, а майго не вернеш».

Распытаў Уладзімір Пятровіч Настассю пра жыццё-быццё. Расказала, што трымае дзвюх коз і вепручка, што цяпер, калі «падскочыла трава», іх пракарміць лягчэй. І яшчэ паведаміла, што атрымала 50 тысяч рублёў дапамогі ў райвыканкоме (аб гэтым таксама хадайнічаў Фалітар).

— Дзякуй, дзякуй, дзякуй.

Жыццё «закручвае» няпростыя сюжэты. Што ні чалавек, то непаўторны лёс, нестандартныя, як цяпер кажуць, сітуацыі. Ну як было абысціся без падтрымкі сельсавета Аляксандры Локтыш з тае ж вёскі Рубеж. Муж, удзельнік вайны, памёр. Засталася адна. А тут як на тое ліха згарэла і хата (кажуць, электраправодка ўспыхнула).

— Мы выдзелілі Локтыш бясплатна дваццаць кубаметраў лесу, шыфер, — гаворыць У.Фалітар. — Калгас імя Ульянава падключыў будаўнічую брыгаду. Уся вёска «скінулася» грашыма. Цяпер жанчына ўжо жыве ў сваёй хаце.

Вёску сёння дзяржава «крыўдзіць» высокімі цэнамі на тэхніку, будматэрыялы, «мінералку»... Вёска сціснулася як спружына, але жыве. Найбольш пакутуюць адзінокія, састарэлыя. Тых 2—3 тысяч рублёў, якія яны збіралі ўсё жыццё, хопіць хіба што на сто грамаў каўбасы. Летась памёр ветэран працы — механізатар Юры Панцюхін з калгаса «Чырвоны сцяг» (гэтая гаспадарка, як і калгас імя Ульянава, знаходзіцца на тэрыторыі сельсавета). Сродкі на пахаванне выдзелілі з грамадскіх фондаў.

Жыццё не спыніш ніякімі дырэктывамі. Без вёскі горад сядзе на галодны паёк. Расказалі ў сельсавеце, што ў абодвух калгасах арганізавана ідуць палявыя работы, што «наскрэблі» і бензіну, і дызпаліва для гэтых мэт. Не крыўдзяць і вяскоўцаў. Плошча пад прысядзібнымі ўчасткамі павялічана з 40 да 55 сотак. У палях севазвароту сеюць людзям «шнуркі» ячменю, бульбы.

Радзей, чым раней, але ўсё ж «звіняць» наваселлі. Вось і зараз заканчваюць будаўніцтва двух шасцікватэрных дамоў у калгасе імя Ульянава. Рыхтуюць «пад ключ» два двухкватэрныя дамы і кацельню ў калгасе «Чырвоны сцяг».

Як бы ні было цяжка, на тэрыторыі сельсавета працуюць два комплексныя прыёмныя пункты. Бо паспрабуй сёння з вёскі дабрацца да райцэнтра, каб аказалі там, у Доме быту, нейкую паслугу. Па-першае, амаль не ходзяць аўтобусы, па-другое, кошт тых паслуг не па кішэні селяніну. Добры прыклад паказаў калгас «Чырвоны сцяг», узяўшы на свой баланс КПП. Набывае для яго тканіну, каб тыя ж порткі ці сукенка абышліся вяскоўцу танней.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

# ЗНАЎЦЫ МАТУЛІНЫХ ПЕСЕНЬ

Фальклорны ансамбль Селішчанскага сельскага Дома культуры — адзін з лепшых у Слуцкім раёне. Створаны ён тры гады таму назад, калі мясцовую дзіцячую музычную школу ўзначаліў Міхаіл Пятровіч Зяневіч. Гэта па яго прапанове выкладчыкі ўліліся ў мастацкую самадзейнасць. Кіруе ансамблем віртуоз сваёй справы А.І.Вішняк. Расказваюць, на Случчыне няма чалавека, які б перайграў Аляксея Іванавіча, калі ён возьме ў рукі гармонік ці баян. Дарэчы, ён лаўрэат многіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў.

— У самадзейнасці я больш за 40 гадоў. Палову з іх працаваў акампаніятарам знакамітага Азершчынскага народнага хору, якім кіравала заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Таццяна Карнееўна Лапаціна. Тыя гады для мяне — цудоўная школа жыцця, прафесійнага майстэрства, — зазначыў Аляксей Іванавіч.

І столькі ж гадоў А.І.Вішняк працуе ва ўстановах культуры Случчыны. Песні на яго музыку можна сустрэць у рэпертуары калектываў самадзейнасці самых розных раёнаў рэспублікі.

— Вы лепш пра ўдзельнікаў ансамбля напішыце, — працягвае размову Аляксей Іванавіч.

А людзі ў гэтым калектыве сапраўды таленавітыя. Заслухаешся, калі за цымбаламі Таццяна Цімохава. Якія імправізацыі і стыхійныя варыяцыі яна выконвае! Як хораша аздабляе, здавалася б, даўно знаёмую мелодыю! Поўныя чароўнай прывабнасці творы, якія выконваюць скрыпачкі Ларыса Даўгалевіч і Ірына Кулакова. Яны літаральна зачароўваюць слухачоў. Высокага прафесіяналізму дасягнулі Васіль Гаркун /кантрабас/, Жанна Арлова, Надзея Рыжкова, Святлана Калачык /ударныя інструменты/, салістка Ларыса Бародзіч.

*Уладзімір АНТОНАЎ.*

# УНИЗИЛИ ВЕТЕРАНОВ

В начале мая Белорусская ассоциация инвалидов Отечественной войны пригласила своих членов в Боровлянский госпиталь, где им были вручены солдатские фронтовые письма-треугольники. Они начинались обращением к ветеранам:"Дорогой товарищ! Спасибо за Победу! Спасибо за мужество! Желаем счастья, радости и крепкого духа!.. Ниже излагалась программа торжества, первым пунктом которой значилось: "Радиогазета, выставки, фото на память".

Улыбающийся фотограф был безупречно вежлив и предупредителен: "Станьте, пожалуйста, вот здесь... Смотрите, пожалуйста, вот сюда... Может, лучше без шляпы?.. Улыбнитесь... Вы, случайно, не моргнули?.. Деньги не нужны, оплатят спонсоры... Куда вам выслать фото?.. Или вы сможете через недельку лично зайти за снимком в ассоциацию инвалидов?.."

Вслед за другими поддался искушению получить фотокарточку на память о 49-й годовщине Победы и я. Через дней десять звоню по тел. 36-60-72 в ассоциацию инвалидов.

— Какое фото?! — возмутился ответственный за это мероприятие работник ассоциации некто Волков. — Вот сядьте на мое место и поработайте...

18 мая по тел. 36-60-19 я обратился к самому председателю ассоциации А.Н.Бондаровичу, который объяснил мне, что спонсоры требуют предоплату за выполненную работу. И взял номер моего домашнего телефона, тем самым вселив надежду, что меня пригласят получить заветный снимок.

Не дождавшись приглашения, 31 мая я снова позвонил по тел.36-60-19.

— Я сижу под напряжением, так как сегодня мне предстоят два выступления. А спонсоры требуют предоплату по-прежнему, — ответил Анатолий Николаевич.

Горько и обидно: почему в ассоциации инвалидов такие безответственные работники, которые вместо обещанной в треугольничке радости принесли нам обиду и унижение? Неужели перед теми, кто в тот день пожелал в Боровлянах сделать фото на память, улыбающийся фотограф щелкал незаряженным фотоаппаратом?..

Уважаемые товарищи из редакции "Мінскай праўды", помогите, пожалуйста, ассоциации инвалидов Отечественной войны, что по ул.Киселева, разобраться в ее отношениях со спонсорами этого мероприятия. Поинтересуйтесь и убедитесь, есть ли хотя бы та пленка, на которой должны быть запечатлены мы — инвалиды.

*Александр АЛЬФЕРОВИЧ, инвалид Отечественной войны.*



■ Спажывецкая кааперацыя

# Цуда-торт

## стварэлі рукі майстра

Прайшло некалькі гадоў з той пары, як пераехаў з забруджанай чарнобыльскай зоны са сваёй сям'ёй на Уздзеншчыну Алег Пятровіч Шэдаў. Тут ён атрымаў пасаду кіраўніка — стаў дырэктарам раённага камбіната кааператыўнай вытворчасці. Пад яго кіраўніцтвам карэнным чынам рэканструявана абсталяванне, зроблена некалькі прыбудоў. Усё гэта зрабіла добры ўплыў на паляпшэнне ўмоў працы работнікаў камбіната, расшырэнне асартыменту і павышэнне якасці выпускаемай прадукцыі. Таму, пэўна, не выпадкова на базе кандытарскага цэха хлебазавода камбіната кааператыўнай вытворчасці ўжо каторы раз за апошнія гады праводзіцца абласны конкурс кандытараў.

На працягу некалькіх майскіх дзён лепшыя з лепшых кандытараў вобласці паказвалі тут сваё майстэрства, здольнасць, фантазію. Кожнаму ўдзельніку конкурсу патрэбна было прыгатаваць неардынарны торт, які б не быў падобны на тыя, што бачым мы штодзень у продажы. Для кожнай майстрыхі пачаліся хвалюючыя, напружаныя дні, бяссонныя ночы. І кожнай з іх гаспадары мясцовага камбіната стварылі належныя ўмовы для творчасці.

І вось, нарэшце, у адзін доўгі рад "выстраіліся" тарты, адзін — прыгажэйшы за другі. Глядзіш на іх і ніяк не можаш вызначыць самы лепшы. Нялёгка было вырашыць гэтую задачу і аўтарытэтнай камісіі на чале з прадстаўнікамі Мінскага аблспажыўсаюза Юліяй Эрыхаўнай Шыманскай і Надзеяй Іванаўнай Марчуцэнка. Адразу кінуліся ў вочы і "папрасіліся" ў рот торцікі бэжавага колеру з непаўторным афармленнем: знаёмыя і дарагія кожнаму з нас палявыя кветкі. Гэта — плён рук валожынскай майстрыхі Таццяны Мікалаеўны Астаповіч. Згодна з рашэннем аўтарытэтнага журы, яе тарты занялі на конкурсе кандытараў першае месца.

Парадавалі сваім умельствам і кандытары Уздзеншчыны. Прыпамінаецца, як гады тры назад тут жа, у гэтым кандытарскім цэху, праходзіў абласны конкурс. І тады мясцовыя кандытары заваявалі першае месца. Прыемна, што цяпер яны таксама ў лідэрах. Кандытар Таццяна Іванаўна Крывашэя зрабіла такі адмысловы малюнак на торціку, што міжволі залюбуешся. І, як вынік, — другое месца. А трэцяе "ўзяла" работа кандытара Чэрвеньскага камбіната кааператыўнай вытворчасці Валянціны Аляксандраўны Пратасевіч. Пераможцы конкурсу атрымалі падарункі, ганаровыя граматы аблспажыўсаюза.

Журы не абмінула ўвагай і іншых удзельнікаў конкурсу, якія таксама парадавалі прысутных сваім майстэрствам. Кожнаму з іх былі ўручаны падарункі ў выглядзе парфумы. З добрым настроем пакідалі кандытары вобласці Уздзеншчыну. Галоўнай мэты дабіліся: паказалі, на што здольныя самі, а таксама ў іншых павучыліся.

*Міхаіл БУЛАТ.*

**На здымку (злева направа): пераможцы конкурсу Т.І.КРЫВАШЭЯ, В.А.ПРАТАСЕВІЧ і Т.М.АСТАПОВІЧ.**

*Фота аўтара.*

■ Далёкае — блізкае

# ТРЫ ПРЫСТУПКІ ПЕКЛА

НЕКАЛЬКІ гадоў назад адна вясковая кабета паказала мне пісьмы свайго мужа з фронту. Адрасаваны яны былі, уласна кажучы, бацькам мужа. А ёй, тады 12-гадовай дзяўчынцы, ён кожны раз прасіў перадаць вестачку пра сябе і суседскае прывітанне. Увогуле, звычайныя франтавыя пісьмы. Каб не адна дэталь, якая паўтаралася ў кожным з іх:

"...Вось ізноў цішыня. Напэўна, даюць адпачыць перад заўтрашнім боем. Як і заўсёды ў такія хвіліны, у маіх вушах стаіць звон пабітай шыбы ў школьным акне. І я думаю пра тое, як хутчэй вярнуцца і папрасіць прабачэння ў нашага дырэктара. Вельмі сорамна перад гэтым добрым чалавекам. Як вярнуся, сваімі рукамі ўсю школу адрамантую..."

Пісьмы тыя засталіся неадпраўленыя. Стос іх ён прывёз з сабой у канцы 44-га ў вызваленую ад немцаў вёску. Вярнуўся назаўсёды, камісаваны пасля шпіталя, але галоўнае — жывы. Школу спалілі, не дачакаўся канца вайны і дырэктар. А пісьмы засталіся. Як рэліквія, якая, ён да скону быў упэўнены, у свой час была для яго паратункам, бо з'яўлялася своеасаблівым стымулам жыцця.

Гісторыя гэтая прыгадалася нядаўна, падчас нашай гутаркі са Сцяпанам Іванавічам Кайко, які жыве ў вёсцы Садкаўшчына Дзяржынскага раёна. Нядаўна ён адзначыў сваё 70-годдзе. Рупны, жвавы, дапытлівы. У старыя сябе залічваць пакуль не збіраецца. Вось і коніка прыдбаў, каб лепей было гаспадарыць самому і суседзям-аднавяскоўцам у тым спрыяць.

А пачуў я ад Сцяпана Іванавіча вось што:

— Змалку люблю хадзіць за жывёлай. І лічу, што менавіта гэта дапамагло мне выжыць у вайну. Нават калі трапіў у пекла канцлагераў, прыхільнасці сваёй сялянскай прымяненне шукаў і, уявіце, знаходзіў.

...У гаёчку, што паўстае адразу за вясковымі сядзібамі, рабіў сваю карпатлівую работу нястомны дзятлік: "Тук-тук, тук-тук..." Колькі драўніны трэба выдзеўбці, каб нарэшце нешта здабыць... Трэба абавязкова штосьці рабіць, у штосьці моцна верыць, чагосьці дамагацца, кахаць, жадаць, спадзявацца... Мабыць, колькі людзей, столькі лёсаў — непаўторных, асаблівых, павучальных.

Яго родная вёска Гаўрыльчыцы, што на Лані-рацэ, — у самым цэнтры Палесся. ("Мы, палешукі, людзі загартаваныя, прыстасаваныя да жыцця, хоць на Месяцы прыжывёмся..."). Тут, па лугах ды балотах, як помніць сябе Сцяпан Іванавіч, хадзіў ён за жывёлай. Да самага свайго 17-годдзя, да вясны 1942 года. А з 7 мая пачалася яго жудасная "адысея", у якую нам, не спазнаўшым і тысячнай долі тых выпрабаванняў, нават цяжка верыцца.

Усё ішло да таго, што яны з пляменнікам Валодзем павінны былі неўзабаве апынуцца ў партызанскім атрадзе. Такія атрады ў іх мясцінах пачалі з'яўляцца яшчэ з восені 1941 года.

— Моладзі ў нашай вёсцы было багата, — успамінае Сцяпан Іванавіч. — Вядома, акупантам гэта было не даспадобы. Вось і вырашылі яны апярэдзіць партызан. Наляцелі на досвітку і пачалі "месці". Першым заходам адразу 76 юнакоў захапілі. Пешшу прыгналі нас у Ганцавічы, трымалі цэлую ноч пад дажджом, а ранкам павялі на чыгуначную станцыю міма шыбеніцы, на якой вісеў небарака, што спрабаваў уцячы. Гэта каб мы таксама не надумаліся.

Потым была доўгая дарога ў таварных вагонах. У чэшскіх Судэтах іх з пляменнікам ды яшчэ 13 юнакоў высадзілі і накіравалі ў маёнтак нямецкага баўэра. Той хутка скеміў, хто на што варты, і Сцяпану былі даручаны 56 кароў, 36 з якіх даіліся.

— Хоць і малады быў, але хутка адчуў, што не вытрымаю, — глядзіць на свае вузлаватыя пальцы Сцяпан Іванавіч. — Рукі пачалі адымацца ад даення. Вядома, каб ведаў, што мяне чакае наперадзе, мабыць, цярпеў бы яшчэ. Усё ж з харчам было няблага, а ноччу ў цёплым хляве можна было крыху адаспацца, адпачыць.

Пасля дзесяці месяцаў прымусу яны з пляменнікам кінуліся наўцёкі. Недалёка адбегліся. Дзеці другога баўэра іх высачылі і паведамілі паліцыянтам. Два тыдні — у Тропаўскай турме, і зноў іх кудысьці вязуць у "цялятніку".

Аднойчы ранкам прагучала каманда высаджвацца. І ён упершыню пачуў зласвеснае слова "Асвенцім". Прайшоў "сартаванне", атрымаў бела-сінюю робу, вытатуіраваны на руцэ дагары нагамі (каб наглядчыкам было зручней чытаць) лагерны нумар 111052 і ўліўся ў 35-тысячны атрад няшчасных.

Гэта было яго першае пекла, у параўнанні з якім апісанае ў біблейскай літаратуры — проста жартачкі. Пекла цягнулася 16 месяцаў, і па правілах, якія ў ім дзейнічалі, усё павінна было скончыцца "лагершпэрэ" — выбракоўкай, "падрыхтоўчымі паслугамі" зондэркаманды і крэматорыем. Уратавала яго з пляменнікам толькі тое, што яшчэ ў "каранціне" паказалі яны свае здольнасці "хадзіць ля коней". Відаць, у катаў тут былі нейкія праблемы. Праўда, адной канюшняй справа не абыходзілася, нагружалі работай пад самую завязку. Затое быў гарантаваны літр баланды і 300 грамаў эрзац-хлеба, плюс цішком прыхоплены ў лагерным садзе яблык ці сырая бульбіна.

Неўзабаве лагер стаў яшчэ больш актыўна папаўняцца вязнямі з усходу, а немцаў з ліку вязняў пачалі забіраць на "гарматнае мяса". Так зняволеныя даведаліся пра вынікі бітвы пад Масквой, а потым і Сталінградскай бітвы. Усіх іх, хто яшчэ трымаўся на нагах, за выключэннем яўрэяў, раптам вывезлі ў "Бухенвальд".

— Гэтае другое пекла я запомніў па букавых краявідах навокал, яшчэ больш, чым у "Асвенціме", жорсткаму рэжыму і катаржнай працы пад амаль бясконцымі бамбёжкамі на аднаўленні бензінавага завода пад Мерзебургам, — расказвае С.І.Кайко. — Англійскія бамбардзіроўшчыкі не выбіралі цэлі: аднойчы адразу 180 зняволеных "накрылі". Упэўнены быў, што тое ж чакае і мяне. Але пасля васьмі месяцаў я трапіў у сваё трэцяе пекла — "Дору". Гэта было месца, дзе ў скальных тунелях і штрэках гітлераўцы размясцілі звышсакрэтны завод па выпуску суперзброі масавага знішчэння. Паўгода дзяўблі мы кіркамі 125-метровую скалу. Штодня з 6 раніцы да 12 ночы. Потым, хоць дождж, хоць снег, — маршам у драўляныя баракі Нордхаўзена, каб праз чатыры гадзіны зноў адмерваць тыя ж 3 кіламетры да месца катаргі. Замест 300 грамаў хлеба ўжо давалі 800 грамаў бульбы на суткі. Людзі сыпаліся што снапы. Як я ўратаваўся? Калі ўсе адпачывалі, прасіўся працаваць ля кухні. А там здаралася апынуцца ля скрыні з бульбянымі лупінамі...

Для іншага чалавека хапіла б і адной прыступкі таго пекла, што спазнаў гэты чалавек. А ён вось нейкім цудам выжыў. Хаця цуд мог і не адбыцца...

— Было гэта напрадвесні, — зноў успамінае С.І.Кайко. — Нядзеля, выхадны. У дараваныя гадзіны адпачынку мы любаваліся цішынёй, удыхалі пахі лесу, што даляталі да баракаў. А ранкам баракі абстралялі англійскія "ястрабкі". У абед нам далі адразу па 2 літры вадкіх канцэнтратаў. Потым выстраілі ў калону і... прапанавалі на выбар: маршыраваць пешшу ці ехаць у таварняку. Зняволеныя з ліку еўрапейцаў адгаварвалі ісці, бо аб чымсьці прачулі. Я вырашыў ехаць. Пазней высветлілася, што калона з 2 тысяч лагернікаў загінула. Сярод нас страты таксама былі, бо нас вазілі ў зачыненых вагонах, не даючы ні есці, ні піць, шасцёра сутак. На рампу высадзілася жывой толькі трэцяя частка з нас. А потым яшчэ 2 кіламетры ішлі да г. Бергера. Там на пяты дзень знаходжання ў лагеры пад крыкі "ура!" сустракалі англійскую танкавую калону. Але і гэта не быў канец пакутам. Увесь лагер спрабаваў атруціць, згодна з атрыманым заданнем, замаскіраваны эсэсавец. Шмат людзей скасілі прадукты, якія мы знайшлі на пакінутым немцамі складзе. Астатнія зняволеныя былі праз два тыдні вывезены англічанамі ў размяшчэнне савецкіх войск, дзе нас "пасадзілі" на добрую ялавічыну і бульбу. Так што яшчэ праз два тыдні большасць з ацалелых гатова была пайсці папаўненнем у армію.

Сцяпана Іванавіча ў армію не ўзялі — сэрца знясілілася. На месцы роднай вёскі застаў адны галавешкі. Давялося шукаць прытулку ў іншых мясцінах. Так трапіў у Клецкі раён, дзе абзавёўся сям'ёю і доўга працаваў у калгасе, вядома ж, пры жывёле. Зусім нядаўна пераехаў да адзінага сына на Дзяржыншчыну, пасля таго як пахаваў жонку. І так распарадзіўся лёс, што жыве ў адноўленай вёсцы Садкаўшчына, якая ў вайну была спалена фашыстамі разам з яе жыхарамі...

*Міхаіл ІОВЕНКА.*

